Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 300.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Серада, 20 траўня 1998 г. № 52 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Азартнымі гульнямі зоймецца дзяржава

**На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт аб манапалізацыі латарэйнай дзейнасці. Цяпер беларусы могуць афіцыйна згуляць у азартныя гульні толькі з дзяржавай.**

Дэкрэт перадае дзяржаве выключнае права на правядзенне латарэяў, таталізатараў і іншых гульняў, дзе выйгрыш удзельнікаў выпадковы і не залежыць ад жадання арганізатара. Савет міністраў будзе вызначаць тыя дзяржаўныя ўстановы, якім дазволяць ладзіць латарэі. У бліжэйшы час улады спыняць дзейнасць тых недзяржаўных латарэяў і таталізатараў, якія праводзяцца цяпер, а іхнім арганізатарам прапануюць зарабляць грошы як-небудзь па-іншаму.

Грошы, што дзяржава мяркуе зарабіць ад правядзення латарэяў, пойдуць у першую чаргу на развіццё фізкультуры і спорту і толькі потым — на ліквідацыю вынікаў аварыяў і стыхійных бедстваў. Калі раптам ад спорту і аварыяў застанецца нейкія сродкі, то іх накіруюць на аказанне дапамогі бедным, ахову навакольнага асяроддзя, гістарычных і культурных каштоўнасцяў, і г.д.

Як сведчыць сусветны вопыт, правядзенне латарэяў — вельмі прыбытковы бізнес. Але таксама і даволі крыміналізаваны. Напрыклад, наладзіўшы латарэю, праз яе можна «адмыць» грошы, атрыма്ныя незаконным шляхам. Вядомыя выпадкі звычайнага падману ўдзельнікаў, падтасовак у ходзе правядзення латарэі і г.д. Таму цалкам зразумелае жаданне дзяржавы манапалізаваць прыбытковы бізнес і адначасова ўратаваць сваіх грамадзянаў ад рознага кшталту аферыстаў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Пуцёўкі ёсць, але дарагія

**Кошт пуцёвак у дзіцячыя аздараўленчыя лагеры гэтым летам складзе ў сярэднім 4,5—6 мільёнаў рублёў.**

Школьнікаў сталіцы ўжо гатовыя прыняць 74 лагеры (увогуле ж вакол Мінска іх 81). На кожную пуцёўку са сродкаў сацыяльнага страхавання выдзяляецца датацыя ў памеры 1 млн. 800 тыс. рублёў, а для работнікаў бюджэтнай сферы — 2 мільёны.

Аднак, нягледзячы на гэта, летні адпачынак дзяцей стане сур'ёзным выпрабаваннем для сямейнага бюджэту. Па словах начальніка мінскага гарадскога ўпраўлення па аздараўленні Валерыя Гарунова, сярэдні кошт пуцёўкі — ад 4,5 да 6 млн. рублёў, а ў асобных лагерах цэны дасягаюць 8 млн. рублёў. Пры гэтым, адзначыў В.Гаруноў, высокі кошт пуцёўкі не заўсёды азначае лепшы комплекс паслугаў. Для дзяцей, пераселеных з забруджаных пасля аварыі на ЧАЭС тэрыторыяў (іх у сталіцы каля 2,5—3 тысячаў), пуцёўкі поўнасцю аплачваюцца дзяржавай.

Самы танны варыянт — пакінуць сына або дачку ў горадзе, у прышкольным лагеры, дзе дзеці будуць знаходзіцца пад наглядам педагогаў і медычных работнікаў. На пуцёўкі ў такія лагеры дзяржаўная датацыя складае 900 тысячаў рублёў, што амаль раўняецца кошту самой пуцёўкі.

*БелаПАН*

# Барыс Беразоўскі рыхтуе форум

**Учора ў мінскай штаб-кватэры СНД новы выканаўчы сакратар Барыс Беразоўскі адкрыў паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы форуму дзяржаваў Садружнасці.**

Нагадаем, што рашэнне аб правядзенні ў ліпені гэтага года форуму, які павінен рэфармаваць Садружнасць, было прынятае на нядаўнім маскоўскім саміце кіраўнікоў СНД. У рабочую групу, якой кіруе Барыс Беразоўскі, уваходзяць прадстаўнікі ўсіх краінаў-удзельніцаў СНД.

Як паведамілі ў штаб-кватэры Садружнасці, Беразоўскі прабудзе ў Мінску некалькі дзён. Рабочая група павінна вызначыць пералік пытанняў па рэфармаванні структураў СНД, стварэнні зонаў свабоднага гандлю, агульнага рынку тавараў, паслугаў і рабочай сілы, а таксама вольнага перамяшчэння капіталаў па тэрыторыі Садружнасці. Група павінна зацвердзіць канчатковую дату правядзення форуму і парадак прадстаўніцтва на ім краінаў-удзельніцаў.

Не выключана, што форум з ліпеня будзе перанесены на больш позні тэрмін, а замест прэзідэнтаў краіны СНД будуць прадстаўляць віцэ-прэм'еры. У падтрымку такога «паніжэння» ўзроўню прадстаўніцтва нядаўна выказаўся Аляксандр Лукашэнка, які наогул скептычна ставіцца да рэфармавання Садружнасці. Так, падчас сустрэчы з журналістамі 5 траўня Лукашэнка заявіў, што яму незразумелая ідэя «нейкага форуму». Таму, сказалі ў выканаўчым сакратарыяце, не выключана, што Беразоўскі ў бліжэйшы час



зноў сустрэнецца з Лукашэнкам і паспрабуе пераканаць яго ў важнасці будучага форуму для лёсу Садружнасці.

Пасля размовы з Лукашэнкам 8 траўня Беразоўскі паведаміў журналістам, што іхнія стратэгічныя мэты ў адносінах да СНД супадаюць. Цяпер, відаць, засталося дамовіцца пра тактыку.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### *Візіт*

***Прэзідэнт Лукашэнка напрыканцы гэтага тыдня адправіцца ў Яраслаўскую вобласць, дзе правядзе перамовы з губернатарам, наведае шэраг прадпрыемстваў, а таксама выступіць на канферэнцыі «Славянский мир: общность и многообразие».***

### *Папярэджанне*

***На сустрэчы з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам дырэктар аддзела Сусветнага банка па Беларусі і Украіне Поль Сігельбаўм заявіў, што з 1 ліпеня прадстаўнік Сусветнага банка, магчыма, будзе адкліканы з РБ. Прычына — невыкананне нашым урадам мемарандуму, які прадугледжваў правядзенне шэрагу эканамічных рэформаў. Праўда, офіс банка ў Мінску застанецца, але ён будзе займацца ў асноўным папулярызацыяй сярод насельніцтва Беларусі ідэі неабходнасці эканамічных рэформаў.***

## Імпарт кубінскай рэвалюцыі

**Кіраўнік дзяржкамітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк запрасіў у Мінск дэлегацыю маладых камуністаў Кубы.**

Дэталям візіту была прысвечаная нядаўняя сустрэча Пазняка з Часовым Паверанным у справах Рэспублікі Куба ў Беларусі Хасэ Фернандэсам. Госці з вострава Свабоды прыедуць да беларускіх таварышаў з 21 па 25 траўня. Як паведамілі ў дзяржкамітэце, «маладзёжнае міністэрства» збіраецца наладзіць цеснае супрацоўніцтва з саюзам маладых камуністаў Кубы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Мяжа - гэта не толькі слупы

*Еўрапейскі Саюз дапаможа Літве ахоўваць мяжу з Беларуссю*

Кіраўнік дэлегацыі Еўракамісіі ў Літве Генрык Шмігялёў паабяцаў паспрыяць у фінансаванні праектаў аховы літоўска-беларускай мяжы. У Брусэлі, цэнтры еўрапейскіх структураў, пераважае меркаванне, што ўсходняя мяжа Літвы ў будучым стане знешняй мяжой Еўрасаюза, таму неабходна палепшыць яе ахову, сказаў дыпламат журналістам.

Разам з амбасадарамі заходніх краінаў Шмігялёў на мінулым тыдні агледзеў літоўска-беларускую мяжу. На заставе ў Медніках (Мядзінінкай) дыпламаты падняліся на вежу назірання вышынёй 30 метраў, адкуль можна назіраць за плошчай у 20 квадратных кіламетраў. Літва ўжо мае шэсць такіх вежаў на мяжы з Беларуссю, плануецца пабудаваць яшчэ 14.

Агульная працягласць літоўска-беларускай мяжы складае 650 кіламетраў, кожная краіна павінна дэмаркіраваць па 325 кіламетраў. Літва ўжо абуладкавала свае 230 кіламетраў мяжы ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі. Беларусь пакуль ставіць часовыя слупы, але незабаве пачне ўстаноўку пастаянных на чатырох самых важных участках мяжы па 30 кіламетраў.

*BNS-БелаПАН*

# Манахі завяршылі пасяўную



*Манахі праваслаўнага манастыра ў Жыровіцах гэтымі днямі сеялі агуркі, спяшаліся ўпарадкаваць поле да свята. Сёння, 20 траўня, — дзень Маці Божай Жыровіцкай.*

# Ці даляціць Лебедзь да Крамля?

**Перамога Аляксандра Лебедзя на губернатарскіх выбарах у Краснаярскім краі дагэтуль застаецца аб'ектам увагі не толькі на абшарах СНД, але і ў свеце. Генерал разглядаецца як рэальны кандыдат у прэзідэнты Расіі на выбарах 2000 года.**

А што думаюць аб наступствах падзеяў у Краснаярску беларускія палітыкі, як, на іх думку, перамога Лебедзя можа адгукнуцца ў Беларусі?

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Станіслаў Багданкевіч** згодны з тым, што цяпер Лебедзь мае найлепшыя шанцы атрымаць расійскі прастол. Багданкевіч адзначае здольнасць Лебедзя заручыцца падтрымкаю не толькі простых людзей, але і «новых рускіх», якія фінансавалі ягоную перадвыбарчую кампанію.

Лідэр ЛДПБ адстаўны палкоўнік **Сяргей Гайдукевіч** убачыў у перамозе Лебедзя добры знак для сябе: *«Тое, што магчыма ў Расіі генералу, у Беларусі па сілах палкоўніку»*. Перайшоўшы на сур'ёзны тон, Гайдукевіч зазначыў, што сітуацыя ў Расіі вельмі нагадвае яму 1993 год у Беларусі, калі людзі, што мелі ўладу, былі звыш меры ўпэўненыя ў будучай перамозе і таму прайгралі. *«Толькі праз два гады, увайшоўшы ў Крэмль, Лебедзь па-сапраўднаму зоймецца краінамі СНД, і ў першую чаргу Беларуссю, а дагэтуль Лукашэнка можа Лебедзя не баяцца»*, — прагназуе Гайдукевіч.

Лідэр БНФ **Лявон Баршчэўскі** ў якасці галоўнага выніку краснаярскай падзеі адзначыў памяншэнне шанцаў Лукашэнкі на прастол у Крамлі. *«Беларускі прэзідэнт будзе непазбежна карэкціраваць сваю знешнюю палітыку»*, — упэўнены Баршчэўскі. Ён таксама лічыць, што абранне Аляксандра Лебедзя губернатарам не будзе спрыяць стабілізацыі палітычнага становішча ў Расіі, а значыць, у пэўным сэнсе і ў Беларусі.

Кіраўнік партыі камуністаў **Сяргей Калякін** не разглядае Лебедзя як стопрацэнтнага кандыдата ў расійскія прэзідэнты. Ён не выключае, што праз два гады, так і не вырашыўшы большасць праблемаў Краснаярскага краю, Лебедзь настолькі згубіць свой сённяшні рэйтынг, што сам не рызыкне ісці на Крэмль. Як партыйны лідэр, Калякін зрабіў з краснаярскай падзеі тую высновову, што для перамогі трэба падбіраць кандыдатуры не проста адданых сваёй партыі людзей, а менавіта асобаў, якія валодаюць пэўнай харызмай і не абцяжараныя *«наменклатурнай біяграфіяй»*. Што тычыцца адносінаў сённяшняга афіцыйнага Мінска з рэгіёнамі Расіі, у тым ліку з Краснаярскам, Калякін не думае, што тут нас чакаюць змены. *«Каманда Лукашэнкі нашаптала сваяму шэфу, што ён на абшарах Расіі непераможны. Таму наўрад ці беларускі прэзідэнт спыніць свае наезды ў расійскія правінцыі. Думаю, што перамога Лебедзя ў Краснаярску толькі падштурхне Лукашэнку да больш актыўных дзеянняў на ніве інтэграцыі»*, — лічыць Сяргей Калякін.

*Падрыхтаваў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Правы чалавека на 5 мільёнаў

**Нацыянальная акадэмія навук Беларусі абвесціла конкурс сярод маладых навукоўцаў, якія працуюць над праблемай правоў чалавека.**

На конкурс можна падаць манаграфіі або артыкулы, апублікаваныя ў навуковых часопісах ці іншых выданнях. Конкурсная праца павінна мець рэкамендацыю акадэміка або члена-карэспандэнта НАН. Памер першай прэміі 20 мінімальных заробкаў — сёння гэта 5 млн. рублёў.

## Курс на Мадрыд і Барселону

**У Іспаніі знаходзіцца спецыяльная дэлегацыя, якая павінна парафіраваць беларуска-іспанскае пагадненне аб транспарце.**

Аб'ём перавозак паміж дзвюма краінамі пастаянна ўзрастае. Яшчэ пяць гадоў таму былі толькі адзінкавыя паездкі, а летась з Беларусі ў Іспанію зрабілі рэйсы каля 450 грузавікоў, з Пірэнейскага паўвострава да нас — каля 250.

Аналагічныя пагадненні Беларусь ужо заключыла з большасцю краінаў Еўропы; вядуцца таксама перамовы з Грэцыяй, Швецыяй, Швейцарыяй, Славеніяй і Харватыяй.

*БелаПАН*

## Карпенка на курсах павышэння кваліфікацыі

**Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзь Карпенка і намеснік старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах Анатоль Лябедзька ўдзельнічаюць у міжнародных курсах у Партэнкірхене (Германія).**

Мэта курсаў — даць вышэйшым урадавым чыноўнікам, парламентарыям, военачальнікам, навукоўцам і дыпламатам магчымасць абмяняцца ідэямі. З лекцыямі перад імі выступяць такія аўтарытэтныя людзі, як міністр замежных справаў ФРГ Клаўс Кінкель, кіраўнікі ваенных ведамстваў Бельгіі і Польшчы. У працы курсаў удзельнічаюць каля 60 прадстаўнікоў з 30 краінаў.

## Музейнае свята

**У Ветрынскай сярэдняй школе Полацкага раёна Віцебскай вобласці адчыніўся музей вядомага дзеяча нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя Браніслава Эпімах-Шыпілы.**

Навуковец-лінгвіст і літаратуразнаўца, актыўны выдавец і прапагандыст беларускай кнігі Б.Эпімах-Шыпіла вядомы таксама і як духоўны настаўнік беларускага песняра Янкі Купалы. Збор матэрыялаў і падрыхтоўку музейнай экспазіцыі арганізавала пяць гадоў таму настаўніца Ала Краснова. Па выніках архіўных пошукаў дакладна ўстаноўлене месца нараджэння асветніка — вёска Залессе за 20 кіламетраў ад Полацка.

Адкрыццё музея Б.Эпімах-Шыпілы адбылося якраз напярэдадні Міжнароднага дня музеяў, які штогод адзначаецца 18 траўня. У нашай краіне цяпер 174 дзяржаўныя і каля 1.400 грамадскіх і ведамасных музеяў.

Начальнік аддзела міністэрства культуры Сяргей Маслоўскі паведаміў, што асноўная частка дзяржаўных музеяў — 139 — гэта гістарычныя і краязнаўчыя; а літаратурных, мастацкіх, музеяў-сядзібаў і скансенаў (музеяў пад адкрытым небам) — разам усяго 35. З цягам часу колькасць такіх «культурніцкіх» музеяў павінна павялічыцца, бо міністэрства, па словах С.Маслоўскага, лічыць, што «трэба адмовіцца ад ідэалагічнага прынцыпу пабудовы экспазіцыяў».

*БелаПАН*

# Дагонім і перагонім учарашні дзень!

**«Як пераадолець у посткамуністычнай Беларусі антырынкавыя стэрэатыпы?» У рамках такога праекта Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў правёў у Гродне семінар.**

Удзельнікі ламалі галовы над двума-трыма цяжкімі пытаннямі. Напрыклад: павышэнне аб'ёму вытворчасці ў РБ — «ліпа» гэта ці не? Прадстаўнік цэнтра «Усход-Захад» Л.Заіка лічыць, што ў большасці постсавецкіх краінаў адбылося падзенне эканамічных аб'ёмаў на 40%, а затым зноў пачаўся некаторы рост — незалежна ад таго, праводзіліся рэформы ці не. Беларусь якраз і з'яўляецца такім прыкладам.

Карацей кажучы, урад не маніць, але папросту завышае лічбы росту. Аднак даказаць гэта вельмі цяжка. Адны з асноўных аргументаў наступныя. Па-першае, павялічыўся гандаль з Расіяй, які пераважна адбываецца ў выглядзе бартэру. А кошты бартэрнай прадукцыі наўмысна завышаюцца на 30—50% (канд. экан. навук Л.Злотнікаў). Па-другое, маніпулюваць з лічбамі дазваляе наяўнасць адрозных валютных курсаў (канд. экан. навук В.Дашкевіч). Ён падкрэслівае, што эканамічны рост адзначаны ўпершыню ў другім квартале 1996 г., калі ўлады ўзаконілі два розныя курсы долара. Між тым, у першым квартале таго ж года быў 8—10-працэнтны спад у эканоміцы.

Мэта беларускіх уладаў — захоўваць эканоміку ў тым стане, якой яна была ў часы СССР. Адмаўляючыся ад рэформаў, Беларусь адмовілася ад далучэння да еўрапейскай супольнасці. Латышы падлічылі, што, вяртаючыся ў Еўропу, яны могуць атрымаць грашовую дапамогу памерамі са свой дзяржаўны бюджэт. Беларусь застаецца ва ўчарашнім дні: вы купляеце нашы састарэлыя трактары, мы — вашыя нямодныя сукенкі і паліто. Лукашэнка настойліва паўтарае, што прагне вярнуць «усё лепшае, што было ў СССР». А што там было лепшае?

Сярэдні заробак у 70 долараў лічыць нармальным сам прэзідэнт. Паглядзелі хаця б на Славенію — былую югаслаўскую рэспубліку, з якой у БССР былі братэрскія сувязі. Там сярэдні заробак сёння раўняецца 1.000 доларам. «Як жа пераканаць беларусаў, што рынкавая эканоміка — гэта непазбежнасць?» — задавалі пытанне ўдзельнікі дыскусіі. Насельніцтва паверыць у гэта толькі тады, калі ўбачыць, што ў суседніх Украіне і Расіі жыццё стане значна лепшым. Што да Лукашэнкі з яго камандай, дык іх не ўдасца пераканаць ніколі, бо яны бачаць свет у сваёй уласнай сістэме каардынатаў — на ўзроўні сакратароў райкамаў і калгасных старшыняў.

Праўда, бывае, што рынкавая эканоміка фармуецца нават пры дыктатарскіх рэжымах, а потым паслабляе іх і можа нават прывесці да дэмакратыі, як было ў Карэі. Ці магчыма гэта на Беларусі? Не! Бо Беларусь нельга параўноўваць з Паўднёвай Карэяй альбо Чылі, дзе ніколі не было сацыялізму, і той жа Пінавчэт стварыў дыктатуру, а потым пачаў свае рэформы ў капіталістычнай краіне, якой заўсёды была Чылі.

Што ж мы сёння маем у Беларусі? Паўторную спробу пабудаваць сацыялізм.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

НАЗІРАННІ

# Краіна інтуіцыі

*Успаміны з нагоды 3-й гадавіны рэферэндуму*

Сухія рацыяналісты накшталт прафесара Багданкевіча абагаўляюць кнігу. «Чытайце Хаека! — заклікае прафесар. — Вы станеце лібераламі». А што добрага ў лібералізме? Хто прыдумаў шокавую тэрапію? Лібералы. А я хачу тэрапію без шоку. Бо некаторыя як трапілі ў шок — так і выйсці з яго не могуць. Так і жывуць у стане шоку. І забыліся, дзеля чаго пачалі тэрапію.

«Суха теория, мой друг, а древо жизни вечно зеленеет!» — сказаў адзін вялікі паэт. І ён цалкам меў рацыю. Бо ім кіравала інтуіцыя. Я не крыўджуся на прафесара — аматара кніг. Ён эканаміст, а не фізіёлаг. І кніг па фізіялогіі, мабыць, не чытае. А так бы ведаў, што чалавечы мозг складаецца з дзвюх палавінак. Адна — левая, адказвае за лагічнае рацыянальнае мысленне. Другая — за эмоцыі і інтуіцыю. Увесь фокус у тым, што чалавек нараджаецца з абсалютна аднолькавымі палавінкамі. Толькі ў выніку выхавання і чытання кніжак пачынаюць фарміравацца лагічныя здольнасці чалавека.

А цяпер, паважаны чытач, адкажыце мне на пытанне, як будзе паводзіць сябе чалавек, які не чытае кніг? Правільна. Ён будзе кіравацца інтуіцыяй! А калі такіх людзей многа? Правільна! К чортавай мацеры шокавую тэрапію. К свінням сабачым. К «вшивым блохам»! К дзермакратам. Нам падавай танную кілбасу. І зараз жа. Так што, паважаны прафесар, вашае «Чытайце Хаека!» — гэта проста «глас вопиющего в пустыне».

Двое заезджых журналістаў, не паспелі мы выбраць сабе прэзідэнта, надрукавалі ў маскоўскіх «Известиях» крыўдны фельетон «Краіна агуркоў». Як яны памыляліся, распаўсюджваючы вопыт шклоўскіх земляробаў на ўсю Беларусь! Былі б у нас агуркі — не было б дзірак у бюджэце. Яны не заўважылі галоўнага — нашу інтуіцыю. Мы — краіна інтуіцыі, краіна непрадказальных паводзінаў. На жаль, няма сусветнага рынку інтуіцыі, а то мы маглі б стаць там манапалістамі.

Праўда, інтуіцыя можа быць вельмі карыснай. Я ведаю аднаго дырэктара саўгаса, якому інтуіцыя дазволіла набыць дыплом эканаміста. Ягоных гістарычных ведаў у савецкія часы не хапала для кіравання саўгасам, таму гаспадарка ледзь існавала. Камуністычныя бонзы збіраліся нават здымаць яго з пасады. Трэба было вучыцца. Але часу чытаць кніжкі не хапала. Выручыла інтуіцыя. На кожную сесію ў інстытут ён ехаў разам з парсючком. Не жывым, зразумела. Інтуіцыя ж падказала выкладчыкам, што чалавек з парсючком — практычны эканаміст, а тэорыя — суха.

Так ці інакш, але па атрыманні дыплома перад маім знаёмым адкрыліся выдатныя перспектывы ў калгасна-саўгаснай эканоміцы. Аднак надарыўся момант, і дырэктар саўгаса рэзка змяніў галіну сваёй дзейнасці. Але інтуіцыя па-ранейшаму не здраджвае яму. І не толькі яму. Колькі людзей скураю адчуваюць, куды вецер дзьме. Які тут Хаек!

Але буду шчыры: і мне інтуіцыя часам дапамагае, за што я ёй вельмі ўдзячны. Памятаю, прыйшоў галасаваць на першы прэзідэнцкі рэферэндум. Бачу, ды і іншыя гавораць, крыху падпраўлены БССРаўскі герб. А інтуіцыя кажа — не ўсё так проста! Стаў я думаць.

І тут прыпомніў кніжку добрую, «Залатая галінка» завецца. Англічанін Дж.Фрэзер напісаў. Там розныя казкі да паданні старажытныя сабраныя. Казка — мана, але не цалкам. Ёсць там аповяд пра тое, як старажытнарымскаму цару сон прысніўся. Быццам пахавалі цара, а вонкі фалас (мужчынскі член іншымі словамі) землю праткнуў і скамянеў у выглядзе слупа. І нібыта з тых часоў сталі помнікі фалічнага тыпу ставіць людзі ў гонар перамог. Бо вайна была справаю мужчынскаю. І праўда, калона Траяна ў Рыме, калона Нэльсана на Трафальгарскай плошчы ў Лондане, Аляксандрыйскі слуп у Санкт-Пецярбургу. Ды і стэла на плошчы Перамогі ў Мінску — усё гэта помнікі ў гонар вялікіх перамог. Цяжкай мужчынскай працы.

Сімвалам жа жаноцкага пачатку (па Фрэзеру) з глыбокай старажытнасці было кола. Альбо вянок. Таму багіня перамогі Ніка ўзнагароджвала пераможцу на спаборніцтвах лаўравым вянком. Бо жанчына была і застаецца найвялікшай узнагародаю для мужчынаў.

Толькі адзін раз бачыў я спалучэнне мужчынскай і жаноцкай сімволікі ў адным помніку. Але спалучэнне вельмі паказальнае. Гаворка пра твор вялікага, у прамым сэнсе, расійскага скульптара З.Цэрэтэлі, прысвечаны 200-м угодкам дамовы паміж Расійскай імперыяй і грузінскім царствам. Па гэтай дамове Грузія прызнавала сябе залежнай ад Расіі. І ў хуткім часе яна цалкам згубіла сваю самастойнасць, ператварыўшыся ў правінцыю імперыі. Здавалася, што гэты трактат — перамога і трыумф Расіі.

Аднак помнік ля Цішынскага рынку ў Маскве выглядае інакш. Агромны, прыкладна 20-метровы слуп (сімвал мужчынскага пераможнага пачатку) пакрыты грузінскімі літарамі. А наверсе — вянок, мабыць, сімвал Расіі. Хто каго перамог? Хто каго паімеў? Але, калі прыпомніць гэнэсэ Джугашвілі, то можа сапраўды мае рацыю скульптар Цэрэтэлі?



Прыгадаўшы ўсе гэтыя паралелі, прыглядзеўся я ўважліва ў выяву новагатарога беларускага герба і пабачыў там у атачэнні вяночка абрыс сваёй краіны, і падказала мне інтуіцыя, што задумаў прэзідэнт «пепратрахіваць» не толькі Вярхоўны Савет, але і ўсю краіну. Але ж мне асабіста думка быць «пепратрахнутым» не падалася добраю. І я прагаласаваў супраць. Як меншасць. Мужчын, сапраўды, у Беларусі менш, чым жанчын.

Тое ж са сцягам. Яшчэ ў незабыўныя савецкія часы вальнадумцы кпілі з БССРаўскага сцяга — захад Сонца над балотам. Бачыш, канцы крыжыкаў на вышыванцы, загнутыя не ў той бок! Так ткалі на ручніках, якія вешалі на магілках, як сімвал згаснулага жыцця. Ну, разагнуў прэзідэнт гэтыя крыжыкі ў іншы бок. Сонца цяпер узыходзіць над балотам. Чым гэта лепш? — падумаў я. Таму прагаласаваў і супраць прэзідэнцкага сцяга.

**Язэп СВІСТУНОВІЧ**

## Беларусы на Украіне

**Беларусы займаюць трэцяе месца па колькасці сярод этнічных меншасцяў Украіны, там дзейнічаюць 20 беларускіх нацыянальна-культурных таварыстваў.**

Як паведаміў беларускі пасол на Украіне Віталій Курашык, у раёнах, дзе кампактна пражываюць беларусы, у некаторых школах факультатыўна вывучаецца беларуская мова. У Львове беларускім нацыянальна-культурным таварыствам імя Ф.Скарыны выдаецца на беларускай мове газета «Беларус Галічыны», трансліруюцца 15-хвілінныя перадачы па радыё «Весткі з Рэспублікі Беларусь». Па просьбе пасольства Беларусі ў кіеўскай бібліятэцы «Дружба народаў» выдзелена памяшканне для адкрыцця асобнага аддзела беларускай літаратуры.

Пры садзейнічанні беларускіх таварыстваў у Кіеве і Львове, адзначыў пасол, у Беларусь вернуты помнікі нацыянальнай культуры, знойдзеныя ва ўкраінскіх музеях. Сярод іх, у прыватнасці, пяць ікон XIV стагоддзя, якія па волі лёсу апынуліся пасля Другой сусветнай вайны ў Кіева-Пячорскім дзяржаўным запаведніку. Беларусы Львоўшчыны вядуць перамовы аб вяртанні на радзіму двух слуцкіх паясоў і Бібліі Ф.Скарыны, што знаходзяцца ў фондах Украінскага нацыянальнага музея. У каталог перыядычных выданняў Украіны ўключаны 60 найменняў беларускіх газетаў і часопісаў.

*БелаПАН*

# Лебедь начал поход на Кремль



Западная пресса начала комментировать результаты губернаторских выборов в Красноярском крае. Газеты сходятся во мнении, что губернаторский пост станет для Александра Лебедя стартовой площадкой для президентских выборов 2000 года.

Победа в губернаторских выборах мгновенно катапультировала Александра Лебедя в первый ряд кандидатов на президентское кресло, пишет американская **«Ю-Эс-Эй Тудей»**. Эти выборы многие рассматривают как репетицию президентских выборов 2000 года, тем более что сам Лебедь своих амбиций не скрывает.

Сибирские избиратели значительно повысили шансы и надежды Александра Лебедя на президентское кресло, пишет британская газета **«Таймс»**. Приверженец жесткого закона и порядка обрел поддержку среди обнищавших жителей региона отчасти оттого, что там особенно сильно неприятие нынешнего российского руководства.

Трамплином в походе на Кремль называет победу Лебедя британская **«Дэйли Телеграф»**. Победа генерала — это пощечина московской политической элите, которая уже давно ополчилась против него. Но Лебедь на том и стоит. Его образ — это аутсайдер, крепкий орешек, который и разоблачит всю продажность и некомпетентность Кремля.

Победу отставного генерала Лебедя горько оплакивают российские коммунисты, отмечает газета **«Файнэншл Таймс»** и приводит слова лидера КПРФ Геннадия Зюганова о том, что эта победа — несчастье для страны.

Тщательный анализ дает французская **«Либерасьон»**. Для Кремля победа Александра Лебедя вдвойне неприятна. Во-первых, она позволяет ему вернуться в Москву и рушить правила, по которым играют Кремль и сговорчивая оппозиция. Во-вторых, она наглядно демонстрирует масштаб недовольства населения, на волне которого победил генерал.

В президентскую гонку Лебедь вольется под теми же националистическими и популистскими знаменами, что и московский мэр Лужков. Только он уже добился процветания родного города, а Лебедю свою состоятельность как руководителя еще надо доказывать. Препятствием на пути генерала может стать «недобрая» воля Кремля, который строит свои отношения с субъектами федерации на основе произвола. Мощная группа «Онэксим», которая владеет «Норильским никелем» и поддерживала Зубова, тоже будет противостоять Лебедю.

Одним из козырей генерала был его образ неподкупного ветерана Афганистана и чеченского миротворца, но он вступил в союз с одним из самых противоречивых деятелей, политическим интриганом и богатейшим бизнесменом Борисом Березовским. Так что теперь Лебедю придется доказывать, что его руки остались чистыми.

# Сухарто не хочет уходить



Парламент Индонезии намерен отправить президента Сухарто в отставку, сообщает агентство «Ассошиэйтед Пресс». Вчера собрались пять парламентских фракций, чтобы просить Сухарто уйти с поста. Пока маловероятно, что 76-летний Сухарто уйдет в отставку добровольно, хотя без поддержки надежных сторонников его позиция у руля станет довольно шаткой. Если генерал не согласится уйти, его политическую судьбу будет решать избирательная ассамблея, которая имеет право поставить на голосование вопрос о смещении главы государства. Сухарто правит страной уже 32 года, это его седьмой президентский срок.



Экономический кризис, который повлек за собой повышение цен на продукты питания, вызвал протест 200-миллионной нации. Страна находится на грани анархии, в массовых беспорядках уже погибло по крайней мере 500 человек. По сведениям министра внутренних дел страны Хартоно, бунты спровоцировала Коммунистическая партия Индонезии. Президент Сухарто объявил партию вне закона еще в 60-е годы, но, вероятно, самые преданные ее члены ушли в глубокое подполье.

# Индия перешла атомный Рубикон

Два месяца назад к власти в Индии пришло коалиционное правительство во главе с партией «Бхаратия джаната парти» (БДП). Первое, что сделал занявший место премьера страны Аталом Бихари Ваджпаи, — это огласил «Национальную программу действий» своей партии, в которой заявил, что пересмотрит ядерную политику страны и воспользуется правом ядерного выбора.

11 мая БДП начала выполнять свои обещания. Индия нарушила 25-летнее «ядерное» молчание и объявила о проведении ею серии из трех подземных ядерных взрывов мощностью от 20 до 30 килотонн каждый. Вспомним, что на Хиросиму была сброшена бомба «всего» в 10 килотонн.

Причиной своих действий Дели, не мудрствуя лукаво, назвал необходимость осуществления ответных акций на проведение своим давним оппонентом Пакистаном месяц назад испытания баллистической ракеты с дальностью полета 1.300 километров. Кроме того, индийское руководство напомнило мировой общественности о своих давних территориальных спорах с Китаем в районе Тибета, которые не решены и поныне. Было объявлено, что обладающая ядерным оружием КНР и сегодня угрожает национальной безопасности Индии, а значит, Дели должен иметь соответствующий набор контрмер, среди которых собственная ядерная бомба является наиболее весомым аргументом.

Итак, сегодня мы становимся свидетелями того, как оторопевший мир безучастно наблюдает за развертыванием гонки вооружений в Юго-Западной Азии, почище той, которая имела место в годы «холодной войны» между странами НАТО и Варшавского Договора. Но самое интересное, что ядерные испытания были проведены спустя неполные два года после того, как 149 государств подписали Договор о запрещении ядерных испытаний. Теперь уже ясно, что судьба ему уготована не очень счастливая. Сколько сил было потрачено американцами для того, чтобы убедить присоединиться к нему китайцев. А чего стоит ядерный демарш Жака Ширака, изрядно потрепавшего нервы «зеленым» всего мира своими испытаниями на атолле в Тихом океане. После всего этого действия Индии министр иностранных дел Германии Клаус Кинкель без обиняков назвал «пощечиной всем странам, подписавшим Договор». Разумеется, он прав — во всяком случае, вряд ли стоит ожидать присоединения к этому документу новых членов в ближайшем будущем.

Вспомним, что первое подземное испытание было проведено Индией в период правления Индиры Ганди 18 мая 1974 года. Ощущая постоянное давление со стороны западных стран, особенно США, Индия всегда подчеркивала, что ее ядерная программа осуществляется в мирных целях. Она отказывалась до последнего времени подписать Договор о нераспространении ядерного оружия, считая, что он должен быть всеобщим, недискриминационным и всеобъемлющим.

Наиболее резкой на индийские взрывы оказалась, конечно, реакция Пакистана. Выступая в Сенате страны, министр иностранных дел Гохар Айюб Хан заявил, что Пакистан сохраняет за собой право принять все необходимые меры по укреплению собственной безопасности. В свою очередь директор научной лаборатории по ядерным исследованиям Пакистана Абдул Кадыр Хан, которого называют «отцом пакистанской ядерной программы», заявил, что правительству Пакистана давно пора определиться с испытанием ядерного оружия. Комментируя сообщения об индийских ядерных испытаниях, он призвал пакистанское правительство принять наконец определенное решение. В то же время Кадыр Хан отказался отвечать на вопрос о том, сколько времени потребуется пакистанским ученым, чтобы добиться паритета с Индией в области ядерного оружия. Зато он отметил, что пакистанские атомщики располагают всеми возможностями для проведения подземных ядерных взрывов уже через семь дней.

*Вполне вероятно, что индийским прецедентом могут воспользоваться Пакистан, Иран, Израиль, ЮАР, Бразилия и другие страны, чтобы легализовать свое ядерное оружие.*

Таким образом, стало ясно, что теперь говорить что-то конкретное о дальнейшей судьбе Договора вряд ли кто-то возьмет на себя смелость. Первым о выходе из него уже заговорили в американском Конгрессе, ссылаясь на условие, при котором президент подписывал этот документ, — США имеют право объявить о необязательности для себя выполнения его условий, если какая-нибудь из стран проведет испытания ядерных устройств после сентября 1996 года.

Тем временем администрация США, недавно упорно убеждавшая законодателей в необходимости ратификации договора, находится в явной растерянности. Первое, что сделали представители руководства страны, — это связались с правительством Пакистана и призвали его «проявлять сдержанность» в реакции на осуществленные Индией ядерные взрывы. Похоже, больше всего американцы сегодня боятся начала «цепной реакции», когда вслед за Индией свои подобные устройства начнут испытывать и другие потенциальные обладатели ядерного оружия. Пресс-секретарь Белого дома Майкл Маккэрри заявил, что Белый дом выразил свое неодобрение и «глубокое разочарование» в связи с действиями Дели и намерен получить более подробную информацию от индийских властей через американское посольство в Дели.

*Результаты опросов общественного мнения показали: более 80% почти миллиардного населения страны убеждены, что Индия должна обзавестись собственным ядерным оружием.*

Ну а когда через день Индия провела еще два ядерных взрыва, Билл Клинтон объявил о введении экономических санкций против Индии как по линии двустороннего сотрудничества, так и через остановку кредитов по линии МВФ и Всемирного банка.

Пока что американцев поддержали немногие страны, хотя с осуждением действий Дели выступили почти все ведущие государства мира. О введении экономических санкций против Индии, включая и замораживание экономической помощи этой стране, объявил Токио. Еще более резкие ответные меры применили Австралия и Новая Зеландия. Они не только осудили Индию за проведение ядерных подземных испытаний, но и отозвали своих послов из Дели.

Предсказуемой оказалась реакция на происходящее России. Из здания на Смоленской площади в Москве в сторону Дели полетели громы и молнии. В спешно подготовленном документе российского внешнеполитического ведомства указывается, что такие действия являются недопустимыми в то время, когда соблюдается всеобщий мораторий на ядерные испытания. «У нас, как у близкого друга Индии, эта акция вызвала самое глубокое сожаление», — отмечается в заявлении МИД. Российское министерство иностранных дел выразило надежду, что такая индийская политика не приведет к цепной реакции в регионе Южной Азии и за ее пределами.

Правда, это все слова. Что же касается действий — никто в России даже не подумал о возможности введения против Индии каких-либо санкций. Совершенно ясно, что программа сотрудничества в ядерной области между двумя странами будет продолжаться, как сохраняться те же устойчивые связи между Москвой и Дели в сфере торговли оружием.

Судя по всему, примеру России последуют и большинство других стран мира. Так что в Индии все очень хорошо просчитали перед тем, как подрывать в своих шахтах ядерные боеприпасы. Тем более что пример Франции был достаточно свеж. Как и Париж, Дели может закончить всю серию своих испытаний, а затем спокойно присоединиться к Договору о запрещении этих испытаний, тем не менее продемонстрировав всем заинтересованным, что на всякий случай и у него «кое-что имеется про запас».

И наконец, еще один немаловажный штрих. Сегодня американские газеты полны сообщениями о том, что спецслужбы США просто-напросто «проморгали» подготовку Индии к испытанию ядерных устройств на полигоне Похран. Задача контроля подобных мероприятий в Соединенных Штатах возлагается на Агентство национальной безопасности и Национальное аэрокосмическое управление. Обе эти структуры в своей деятельности полагаются на информацию, добываемую разведывательными спутниками. Несмотря на то, что индийский полигон входит в число объектов, подлежащих тщательному контролю, ни первое, ни второе ведомство не смогло определить, что на нем полным ходом идет подготовка к подземным ядерным взрывам.

С легкой руки специалиста по технической разведке из Федерации американских ученых Джона Пайка, такую оплошность спецслужб США уже стали называть «провалом десятилетия». Неспособность разведывательных структур страны полноценно контролировать тщательно укрываемые мероприятия по проведению ядерных испытаний теперь может стать первой формальной зацепкой для отказа Сената США ратифицировать Договор о запрещении таких испытаний. Ведь если отсутствуют надежные способы контроля за соблюдением выполнения его положений различными странами, возникает вопрос о целесообразности существования этого документа в целом.

**Максим ЧЕРЕДА**

*Дворцы для президента*

# Посторонним вход воспрещен

**Скоро у белорусского президента появятся две новые резиденции. Располагаться они будут на бывших дачах известного партийного деятеля Машерова и знаменитого советского маршала Тимошенко. Первая находится на территории Березинского заповедника, вторая — под Минском. Она, скорее всего, и послужит в качестве новой президентской резиденции — вместо нынешней в Дроздах.**

## Дом

Как уже сообщалось, в ближайшее время Александру Лукашенко придется покинуть обжитые Дрозды. Причиной переезда, по официальной информации, является необходимость ремонта коммуникаций. По тем же мотивам из комплекса выселяют все располагавшиеся там посольства.

Американцам взамен предложили дом, недостроенный в свое время Андреем Климовым, — в районе стадиона «Динамо». Сам Александр Лукашенко, однако, в душном городе жить не пожелал. Видно, не привык. Поэтому, когда для главы государства начали подыскивать новое пристанище, бывшая дача маршала Тимошенко оказалась весьма кстати. До весны 1995 года она принадлежала министерству обороны. Позже, как и многие иные помещения, была передана на баланс управления делами президента. Александр Лукашенко займет ее в конце мая.

Трудно сказать, будет ли главе государства здесь лучше. Побывать в президентской резиденции в Дроздах нам ни разу не довелось. Но экс-резиденция маршала впечатляет. В первую очередь своими размерами. Два сравнительно небольших двухэтажных домика, в одном из которых будет жить президент, просто теряются на огромной территории комплекса. Если президент не заблудится в густом лесу, ему будет где побродить, размышляя о делах государственной важности. А если пешие прогулки прискучат, он сможет искупаться или половить рыбу в любом из четырех расположенных на территории резиденции озер. В случае же опасности Александр Лукашенко сможет укрыться в одном из подземных бункеров. Военные, как известно, питают к ним слабость, поэтому у маршала Тимошенко их было построено много. Сколько точно — сказать трудно. Но по меньшей мере три хода под землю обнаруживаются без труда. Заросшие лесом искусственные холмы этих бункеров выглядят весьма живописно.

Есть, правда, у дачи Тимошенко один большой недостаток. Известно, что президент любит заниматься спортом. Между тем в его новой обители нет не только спортплощадки, но и обычного теннисного корта.

О грядущем появлении на объекте Александра Лукашенко здесь говорит табличка с угрожающей надписью «Посторонним вход воспрещен. Территория охраняется особым отрядом милиции». Полным ходом идет подготовка к встрече высокопоставленного жильца и внутри комплекса. Со времен маршала Тимошенко на даче очень многое пришло в негодность и требует ремонта. В первую очередь это касается, конечно, жилых помещений. Работы по внутренней и внешней отделке дома находятся, похоже, на начальной стадии. Жить здесь, во всяком случае пока, нельзя. Завершена только отделка ванных комнат в одном из домов. Рабочие, впрочем, уверяют, что за неделю они управятся и со всем остальным.

То же можно сказать и о внешнем облике прилегающей к президентскому жилью территории. Работы здесь ведутся не менее спешно. Бригады рабочих заново мостят дорожки, выравнивают и укрепляют берега озер, меняют асфальт, подрезают деревья. Вдоль ограды резиденции взвод солдат очищает территорию от излишней растительности, проще говоря, спиливает деревья.

Крайний срок завершения работ на объекте — 25 мая. Вероятно, вскоре после этого президент справит новоселье.

## Дача

Помимо резиденции, глава государства в ближайшее время намерен обзавестись и новой дачей. Примерно год назад начались активные ремонтно-реставрационные работы на бывшей даче Петра Машерова, расположенной на территории Березинского заповедника. Мы посетили этот комплекс с тем, чтобы на месте выяснить, что же именно здесь строится. Нам показалось странным, что президенту в дополнение к резиденции под Минском и еще двум — в Беловежской пуще и на Нарочи — понадобилась дача Машерова.

Выглядит она, кстати, гораздо скромнее. Во-первых, территория комплекса в Березинском заповеднике во много раз меньше. Во-вторых, здесь только один жилой дом. В-третьих, работы по реставрации ведутся с гораздо меньшим размахом. Наконец, на объекте практически нет охраны. Даже табличка, висящая на подъезде к даче, выглядит не слишком угрожающе и запрещает только въезд на автомобилях. Насчет тех, кто любит ходить пешком, в ней ничего не сказано.

Все это, впрочем, объяснимо и оправданно. В конце концов, на даче Тимошенко Александр Лукашенко будет жить. В Березинский же заповедник, если там действительно строят дачу для президента, он будет только наезжать. Дача Тимошенко будет домом, дача Машерова — всего лишь дачей.

Местные рабочие недружелюбны и немногословны. На вопрос, что строится, отвечают: «Объект особого значения». Приехавший вскоре после нашего появления то ли начальник строительства, то ли представитель местной администрации в первую очередь потребовал предъявить разрешение на съемки. Когда выяснилось, что такового нет, он стал звонить в Минск начальству более высокому. По его словам, бывшую дачу Машерова реконструируют под санаторий. Строится он якобы за деньги австрийцев, они же и будут там отдыхать.

Версия, распространенная среди жителей соседней деревни Волова Гора, отличается от приведенной немногим. В соответствии с ней на даче будет располагаться турбаза. Правда, селяне официальным объяснениям не слишком верят. Те, с кем мы говорили, уверены: их соседом скоро станет президент.

Правда, увидеть Александра Лукашенко им вряд ли посчастливится. Да и сам Машеров побывал на своей даче только однажды. Произошло это зимой, за три года до его гибели. Местные жители помнят, как Машеров ходил по деревне безо всякой охраны. Из местных достопримечательностей партсекретарь посетил магазин. Это историческое здание стоит в деревне Волова Гора до сих пор. Работает три раза в неделю, когда в деревню привозят хлеб.

То, что годилось первому секретарю, не годится первому президенту. Если во времена Машерова дача не была ограждена, то сейчас здесь предполагается выстроить внушительный забор. На дороге, ведущей к комплексу, уже установлен фундамент для контрольно-пропускного пункта. Тот, для кого строится дача, будет ступать на землю заповедника уже непосредственно на ее территории. Видимо, для того, чтобы лишний раз не беспокоить местных жителей, у самого КПП, за предполагаемой стеной резиденции, построена вертолетная площадка. Отсюда автомобиль будет доставлять гостей к дому.

Впрочем, прибывать на территорию резиденции воздушным транспортом будут не все. Некоторых будут доставлять и на автомобилях. К даче Машерова ведут две дороги. Одна, закрытая для рядовых туристов, идет прямо через лес. Вторая пересекает сразу две деревни. Обе предполагается заасфальтировать.

Итак, «туристов» будут доставлять к месту отдыха на вертолетах, а от нежелательных встреч их оградит надежная стена и не менее надежная охрана. Насколько помнится, в этой стране проблемой государственной важности действительно названа жилищная проблема. Но никто ведь не говорил, что это — проблема одного человека.

**Андрей МАХОВСКИЙ,**
*«Белорусская деловая газета»*





*То, что годилось первому секретарю, не годится первому президенту. К бывшей даче Машерова пристроили третий этаж. А на это поле (снимок слева) будут садиться вертолеты. Магазин же ничуть не изменился со времен Петра Мироновича.*







*Ожидается, что вскоре сюда переселится Александр Лукашенко. На территории бывшей дачи маршала Тимошенко два дома. В одном из них (снимок вверху) будет жить президент. На случай опасности — есть бункер (снимок слева).*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1190 Нумар падпісаны ў друк 19.05.98 (15:00) Наклад — 19.300